

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№183 (696) 21 верасня 1993 г. Аўторак. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 500400 экз. Кошт у розніцу — 15 руб.

## ФАКС

### Нам же наше продают?!

**Посетившие Брест германские коммерсанты привезли с собой образцы медпрепаратов.**

Самое удивительное заключалось в том, что немцы среди прочего "толкали"... наш же "родной" пенициллин, причем по бешеным ценам — до 1,5 тысячи "зайцев" за флакон...

**Олег СУПРУНЮК.**

### Преступление и наказание

**В Первомайском суде Минска завершился процесс по делу об ограблении группой лиц в августе прошлого года квартиры шестикратного олимпийского чемпиона Виталия Щербо.**

Не может не шокировать то, что среди осужденных чемпион Европы по спортивной гимнастике Николай Тиханович, бывший коллега Виталия по команде. Впрочем, за сухими протокольными строчками скрывается настоящая драма, и в ближайших номерах наша газета расскажет об этом "процессе года".

**Алесь СИВЫЙ.**

### Геть с Украины?

**Устроить "варфоломеевскую ночь" русским, живущим на Львовщине, грозятся ультрарадикальные националистические организации, активно действующие в Западной Украине.**

На последнем "львовском вече", состоявшемся на днях возле оперного театра, звучали откровенные призывы к расправе над русскими. На этом митинге было объявлено о создании отрядов добровольцев-мстителей, которые возглавил один из лидеров социал-националистов Юрий Криворучко.

Ночью в семи русскоязычных школах были разбиты камнями окна и разбросаны листовки "Геть с Украины!".

**Галина НЕКРАСОВА.**

### Свято место пусто не бывает

**Состоятельные гости Санкт-Петербурга получили возможность на несколько часов ощутить себя в роли Леонида Ильича Брежнева.**

В этом им помогает личный вертолет генсека МИ-8. Недавно одно из питерских предприятий обменяло его у пермского авиаотряда на грузовую модель той же марки.

Вертолет интересен тем, что если обычная машина нарабатывает в год 2 тысячи часов, то этот — не более семидесяти.

Теперь вертолет работает по заказам туристического агентства, и один из клиентов может совершить путешествие в Санкт-Петербург прямо в кресле Брежнева.

**Михаил КАРЧИК.**



### Вкратце

**Белорусская делегация во главе с министром иностранных дел Петром Кравченко вчера отбыла в Нью-Йорк для участия в 48-й сессии Генеральной Ассамблеи ООН.**

На сессии будут рассмотрены вопросы разоружения, минимизации последствий чернобыльской катастрофы, совместного поиска путей урегулирования ближневосточного конфликта, выхода из тупиковой ситуации, которая сложилась на территории бывшей Югославии.

❑

**Завершился визит делегации Республики Беларусь в Белостокское воеводство.**

Главная цель пребывания делегации — знакомство с опытом проведения политических и экономических преобразований в одном из крупнейших промышленных регионов Польши.

❑

**Повышение цен на Украине с 10 сентября привело к резкому падению жизненного уровня крымчан — примерно в 2 раза.**

Как информирует крымская газета "Таврические ведомости", на сегодняшний день официально установленная Кабинетом министров Украины черта бедности составляет 69,7 тыс. крб.

❑

**Процесс по делу ГКЧП, которое рассматривается в военной коллегии Верховного суда РФ, возобновится сегодня.**

Ранее перерыв в судебном заседании был объявлен в связи с болезнью адвоката подсудимого Олега Бакланова — Алексея Шмырева.

❑

**Международный валютный фонд решил отсрочить предоставление России займа в размере 1,5 млрд. долларов.**

❑

**В журналистском корпусе Грузии еще одна тяжелая утрата.**

19 сентября погиб от автоматной пули тележурналист Александр Иоселиани.

❑

**Правительство Молдовы заявило, что с 20 сентября в республике вводится в обращение банкнота в пять лей.**

Эксперты оценивают этот факт как начало постепенного введения в республике национальной валюты — молдавского лея, который давно отпечатан и уже более года хранится в Национальном банке.

❑

**Абхазская сторона вечером 19 сентября ворвалась в окрестности Сухуми, идут ожесточенные бои, сообщили в пресс-службе вооруженных сил Грузии, дислоцированных в Абхазии.**

Погибло 47, ранено 450 человек. Среди погибших и раненых — грузины, русские, армяне, абхазы, граждане других национальностей.

❑

**Чрезвычайное положение сроком на два месяца вводится в Грузии с ноля часов 20 сентября.**

В населенных пунктах вводится особый режим въезда и выезда граждан, проверка документов на контрольных пунктах, личный досмотр и проверка вещей и транспортных средств.

❑

**На рынках Санкт-Петербурга появились в продаже лапти.**

Детские стоят 1200 рублей, взрослые — 1400 рублей.




Рисунок Олега ПОПОВА.

### В небо идут одни "старики"

**По международным авиатрассам разлетелись одновременно с выходом на пенсию бывшие офицеры Витебского полка транспортной авиации.**

На базе воинской части организовано крупнейшее подразделение республиканской коммерческой компании "Трансавиаэкспорт", главным учредителем которой является Министерство обороны.

Витебскому "филиалу" новой фирмы передана треть полковых самолетов ИЛ-76. Корабли "воздушных извозчиков" ремонтируются и обслуживаются военными, не получающими за это ни копейки. Коммерсанты не имеют трудностей с горючим, покрывают огромные расстояния над "шариком" и получают прибавку к пенсии в долларах. Это можно было лишь приветствовать, только вот молодые пилоты в погонах с безнадегой смотрят на пустые топливные резервуары и неделями ждут случая покружить в небе вблизи аэродрома. Кстати, деятельностью компании заинтересовалась Контрольная палата Беларуси.

**Семен НАЗЕМНЫЙ.**

### Спорт-экспресс

В Молодечно закончился чемпионат Беларуси по городошному спорту. Первенствовала команда Минской области в составе мастеров спорта Александра Кулака, Александра Яршевича, Андрея Ракчеева, Владимира Сазановича, Игоря Лемантовича, Виктора Данилова. На втором месте минчане, на третьем — сборная Витебской области.

❑

На чемпионате Европы среди клубных команд по баскетболу спортсмены минского РТИ победили клуб "Университатя" (Клуж, Румыния) — 108:71.

❑

После крупного поражения в Кубке УЕФА от немецкого "Айнтрахта" (0:5) наставник московского "Динамо" Валерий Газаев заявил о своей отставке.

### Музей-спаситель

**Около 30 икон немалой исторической и художественной ценности передано областным УКГБ Брестскому музею спасенных ценностей.**

Иконы относятся к XVII—XIX векам, их сегодняшняя стоимость — более 7 миллионов рублей. В начале года иконы пытался вывезти в Польшу гражданин Молдовы Лазарь Берон.

**Василий ВИКТОРОВИЧ.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.**

*Афіцыйна*

## Камісія пачала работу

Даўно ўжо наспела неабходнасць удасканалення некаторых нормаў і правіл беларускай арфаграфіі. Даўно вядуцца гутаркі і спрэчкі на гэту тэму ў колах вучоных-мовазнаўцаў, не абыходзіў яе і друк. Пры Таварыстве беларускай мовы імя Ф.Скарыны была створана правапісная камісія, якая на сённяшні дзень мае шматлікія напрацоўкі па гэтай праблеме. У канцы мінулага года была праведзена спецыяльная канферэнцыя, арганізаваная Акадэміяй навук, Міністэрствам адукацыі і ТБМ, на якой абмяркоўваліся пытанні ўдасканалення правапісу. Але работа на дзяржаўным узроўні дагэтуль не вялася, а разнабой у правапісе працягваецца і пашыраецца. І вось, нарэшце, лёд крануўся і тут. 16 верасня 1993 года пачала сваю работу Дзяржаўная камісія па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы, утвораная па рашэнню Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. У склад камісіі ўвайшлі добра вядомыя ў нашай краіне дзеячы навукі і культуры — выдатныя знаўцы роднага слова. Узначаліў камісію народны паэт Беларусі, старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, прафесар Н.С.Гілевіч. Намеснікамі старшыні прызначаны дырэктар Інстытута мовазнаўства АН Беларусі, доктар філалагічных навук А.І.Падлужны і першы намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Л.К.Сухнат. Выкананне абавязкаў сакратара камісіі ўскладзена на вучонага сакратара Інстытута адукацыі М.Г.Яленскага. Акрамя таго, у камісію ўвайшлі аўтарытэтныя вучоныя-філолагі А.М.Булыка, А.А.Крывіцкі, В.П.Лемцюгова, І.Я.Лепешаў, Г.М.Малажай, А.Я.Міхневіч, Г.А.Цыхун, Л.М.Шакун, П.П.Шуба, А.С.Яскевіч, М.С.Яўневіч, вядомыя пісьменнікі І.А.Брыль, В.В.Зуёнак, А.К.Клышка, І.Я.Навуменка.

Першае пасяджэнне камісіі пачалося з вырашэння арганізацыйных пытанняў. Была створана рабочая група ў складзе 9 чалавек, якая будзе працаваць пастаянна і ўжо ў пачатку кастрычніка прадставіць свае першыя прапановы на разгляд камісіі. Часу на доўгія роздумы няма: ужо ў сярэдзіне лютага праект пастановы павінен быць пададзены ва ўрад. Ды, па ўсім было відаць, ніхто з членаў камісіі і не збіраецца сядзець склаўшы рукі. Ужо на першым пасяджэнні былі вызначаны пытанні правапісу, якія будуць разглядацца ў рабочай групе, а затым абмяркоўвацца на пасяджэнні камісіі. З заклапочанасцю гаварылі члены камісіі аб важнасці работы, якая павінна быць выканана ў бліжэйшыя месяцы. Гаварылася таксама і аб тым, што справа ўдакладнення правапісу беларускай мовы павінна стаць справай усяго народа — носьбіта гэтай мовы. У сувязі з гэтым было выказана спадзяванне, што ў абмеркаванні пытанняў правапісу прымуць удзел шырокія колы грамадскасці — усе тыя, для каго неабыякавы лёс роднай мовы і культуры, лёс Бацькаўшчыны.

**Валерый ГАМЕЗА, старшы рэферэнт Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны.**

*З прыёмнай "Народнай газеты". Тэл. 29-60-86*

## Вышэй за Вярхоўны суд?

Цяжкі лёс выпаў на долю гэтай жанчыны. Яшчэ ў час вайны, хаваючыся ад смерці ў зямлянцы, згубіла здароўе... Але, атрымаўшы інваліднасць, Марыя Рыгораўна Кероль вымушана была доўгі час працаваць, каб падтрымаць сям'ю.

Усё багацце, што нажыла, — двухпакаёвая старая кватэра. Жылі спачатку ўчацвярых, потым з'явіліся нявестка, унук... Будтрэст N 29 г.Жодзіна выдаў Кероль гарантыйнае пісьмо: падчас рамонту дома яе сям'і будзе выдзелена яшчэ адна кватэра.

І вось, дачакаўшыся гэтага часу, Кероль перавозяць свае пажыткі ў іншую кватэру. А ў старой пачаўся рамонт, які цягнецца больш за год. Адсюль усё і пачалося...

На кватэру, дзе пакуль што часова размясцілася сям'я Кероль, быў тэрмінова выдадзены ордэр на імя іншага чалавека, які, па ўсім відаць, мае вялікі блат у будтрэсце.

Адбыліся суды: раённы і абласны — не на карысць сям'і Кероль. Потым, у верасні мінулага года (заўважце, колькі ўжо часу прайшло!) Вярхоўны суд рэспублікі апратэставаў ранейшыя рашэнні. І што ж? Як і раней, працягваецца свавольства мясцовых улад, выканаўцаў. Калі гэта скончыцца і хто будзе несці адказнасць за зняважлівыя адносіны да сям'і Марыі Рыгораўны?

**Віктар ЧАРНУШЭНКА.**

## Столькі "наварочалі", а вінаватых няма

**"Мы працавалі. Цэлымі месяцамі сядзелі ў Маскве,"— гавораць прадстаўнікі ўрада, здымаючы з сябе віну за энергетычны крызіс. Аднак ці так трэба працаваць?**

**Уладзімір САМОЙЛАЎ**

Тое, што паліва ў нас амаль катастрафічна не хапае, здаецца, ведаюць усе. І трактарысты, якія з болем пазіраюць на гінучы на палетках добры ўраджай. І ўсе іншыя сельскія жыхары, якія сёння натуральна адрэзаны ад свету — амаль паўсюдна адменены аўтобусныя маршруты. І транспартнікі, і рабочыя, і нават дзеці.

А вось чаму ў нас не хапае паліва, здаецца, да канца не ведае ніхто. Ва ўсякім разе такое ўражанне склалася пасля разгляду гэтага пытання на сумесным пасяджэнні адразу пяці парламенцкіх камісій, а потым на Прэзідыуме Вярхоўнага Савета, куды былі запрошаны акрамя прадстаўнікоў урада дзесяткі спецыялістаў рознага профілю — ад забеспячэнцаў да банкаўскіх работнікаў. І ніхто з іх не прызнаў, што зрабіў сваю справу кепска. Кожны як мог абараняў гонар мундзіра. Але трэба прызнаць, што ўсе разам яны нарабілі такога, што, здаецца, нават самы геніяльны вораг не здолее зрабіць.

Што ж адбылося? Чаму на працягу ўсяго года прадстаўнікі ўрада запэўнівалі парламент і народ, што з пастаўкамі нафты і газу ўсё будзе добра, а напярэдадні зімы Старшыня Вярхоўнага Савета вымушан цікавіцца: а ці не звярнуць нам больш увагі на нарыхтоўку дроў?

Ну як проста і пераканаўча ўсё выглядала на шматлікіх паперах, якія былі падпісаны ўрадамі Беларусі і Расіі. Яны нам нафту, а мы ім — па клірынгу аўтамабілі, трактары, халадзільнікі і іншыя тавары. Яны нам газ, мы ім... — іх жа грошы, узятыя па тэхнічнаму крэдыту.

На справе ўсё аказалася больш складана. І Расію тут абвінавачваць няма ў чым. З пачатку года нафта і газ паступалі, як і планавалася. Аднак наша прадукцыя, абяцаная па клірынгу, у Расію адпраўлялася, трэба сказаць, з вялікімі перабоямі. Так што мы сваіх абяцанняў проста не выканалі. За газ жа запазычанасць у жніўні склала каля ста мільярдаў рублёў.

І Расія зрабіла тое, што павінна была зрабіць. Засаўкі на трубаправодах былі перакрыты. Добра яшчэ, што не зусім і не назаўсёды. І гэтая мера не была варожым актам нядобрай суседкі. Яна толькі празрыста намякала: думайце!

І мы пачалі думаць. Аднак ці не занадта позна?

Што няма ў нас грошай на аплату нафты і газу, было вядома даўно. Ці можна абвінавачваць у гэтым Нацыянальны банк, які хаця і па-стахапаўску павялічвае "пагалоў'е" "зайцоў", але не мае магчымасці прымусіць палюбіць гэтых добрых жывёлін Цэнтральны банк Расіі? Аднак хто ж стварыў такія ўмовы, што і "свае" прадпрыемствы робяць усё, каб пазбавіцца ад нацыянальнай грашовай адзінкі? Як сведчыць той жа банк, толькі зусім невялікая частка грошай ад экспарту вяртаецца на Айчыну, ільвіная ж доля застаецца ў Расіі. Тое ж самае адбываецца з экспартам за межы СНД. Цвёрдая валюта ў асноўным застаецца за мяжой.

Каму, як не ўраду, павінна быць вядома, што па клірынгу, нават калі б мы поўнасцю выканалі ўмовы (а паставілі мы ў Расію тавараў значна менш, чым дамаўляліся), на Беларусь паступіць колькасць нафты, далёкая ад патрэбнай? Аднак урад і падначаленыя яму дзяржаўныя арганізацыі, здаецца, зрабілі ўсё, каб абмежаваць актыўнасць камерцыйных структур, якія прапанавалі і не на такіх ужо дрэнных умовах пастаўляць нафту.

А навошта нам наогул столькі нафты і газу? Прамысловая вытворчасць падае, і, здаецца, расход энерганосьбітаў павінен змяншацца. Аднак высвятляецца, што ўдзельныя затраты энергіі на выпуск прадукцыі ў нас не змяншаюцца, а, наадварот, растуць. Па гэтых паказчыках мы пераўзышлі амаль усе краіны ў свеце. А гэта значыць, што ад слоў аб неабходнасці структурнай перабудовы эканомікі, укаранення энергазберагаючых тэхналогій, пазбаўлення ад энергаёмістых вытворчасцей мы да справы так і не перайшлі.

"Мы працавалі", — білі сябе ў грудзі прадстаўнікі ўрада.— "Цэлымі месяцамі сядзелі ў Маскве!" Што "выседзелі", стала зразумела зараз.

У ходзе разгляду пытання высветліліся дзіўныя рэчы. Напрыклад, ніхто пэўна не ведае, каму ж належаць некаторыя трубаправоды, што пралягаюць праз нашу рэспубліку.

Дэпутаты пыталіся: як разумець фармулёўку з аднаго дзяржаўнага дакумента: "Безвозмездно на пять лет передать Мозырский нефтеперерабатывающий завод Российской Федерации"? Адказы былі вельмі цьмяныя.

Старшыня Вярхоўнага Савета спрабаваў высветліць: чаму, калі мы набываем энерганосьбіты амаль па міравых цэнах, а прадаём сваім спажыўцам па значна ніжэйшых, такімі ж ільготамі карыстаюцца і вайсковыя часці расійскай арміі, якія знаходзяцца на нашай тэрыторыі? Не высветліў.

Прадстаўнікі ўрада невядома каму скардзіліся: многія прадпрыемствы, якія знаходзяцца ў добрам эканамічным стане і нават маюць валюту за экспарт, не плацяць за энерганосьбіты. Назваць гэта можна не інакш як безуладдзем.

На закупку энерганосьбітаў, без уліку нафты, якая набываецца па клірынгу, нам спатрэбіцца каля трыльёна расійскіх рублёў. Дзе іх узяць — ніхто не ведае...

Прэзідыум Вярхоўнага Савета даў некалькі тыдняў ураду, каб паразважаць над катастрафічным становішчам, у якім мы апынуліся. Але, як сказаў адзін з дэпутатаў, дзіўна вось што: столькі "наварочалі", а вінаватых быццам бы і няма...

Давялося не так даўно быць сведкам, як маладая жанчына плакала на сельскай дарозе з хворым дзіцем на руках, якога трэба было завезці ў райпаліклініку. Аўтобусы не хадзілі, "хуткая" не выклікалася, калгасны транспарт стаяў на прыколе. Старая жанчына, мабыць, бабуля маладой, казала: "Нічога, тут недалёка — дзесяць кіламетраў, дабяромся. Неяк жа да вайны хадзілі..."

Што ж за "машына часу" апынулася ў руках нашых кіраўнікоў, якія так проста перакідваюць нас на паўстагоддзя назад?

*"Народная газета" выступіла. Што зроблена?*

## Браканьера пазбавілі зброі

Аддзел унутраных спраў Глыбоцкага райвыканкама, разгледзеўшы артыкул "Узброены і вельмі небяспечны..." ("Народная газета" за 2 верасня 1993 года), паведамляе, што ў раённым аддзеле міліцыі прынцыпова адрэагавалі на здарэнне з браканьерствам дырэктара Глыбоцкай паляўнічай гаспадаркі І.Амяльяненкі. Складзены пратакол аб браканьерстве, які накіраваны ў лясгас. Ануляваны дазвол на захаванне карабіна. Пратакол аб парушэнні правілаў захоўвання зброі перададзены ў адміністрацыйную камісію РВК.

А вось якія меры ўздзеяння на І.Амяльяненку будуць прыняты з боку кіраўніцтва таварыства паляўнічых, нам невядома.

**А.АВЯР'ЯНАЎ, выконваючы абавязкі начальніка Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі.**

*Крымінал*

## "Эх, долары-марачкі, паперкі-паперачкі!"



**Сяргей ГРЫЦ**
**Фота аўтара**

Калі вас сёння Бог абышоў атрымаць 100 долараў, якія аказаліся несапраўднымі, не трэба думаць, што і наступным разам пашанцуе. Папулярнасць замежнай валюты не дае спакою ўмелым рукам з пэўнымі схільнасцямі. Вось і чуеш раз-пораз аб выяўленых фальшывых грошах, якія не разгледзелі ці то простыя грамадзяне, ці то касіры магазінаў або банкаў. І тады за справу бяруцца спецыялісты лабараторыі тэхнічнага даследавання дакументаў навукова-крыміналістычнага цэнтра пры МУС Рэспублікі Беларусь. Іх задача — вызначэнне спосабаў і сродкаў вырабу фальшывых грошай, а таксама і падробных дакументаў.

Увогуле ў навукова-крыміналістычным цэнтры створана 17 новых лабараторый па даследаванню рэчавых доказаў: аўтатэхнічная, фонаскапічная, дактыласкапіі, партрэтнай ідэнтыфікацыі і іншыя. Гэта дазволіць пашырыць колькасць відаў даследчых работ.

❑ *Галоўны эксперт лабараторыі тэхнічнага даследавання дакументаў Мікалай Яфрэменка: "Сабрана багатая калекцыя фальшывак".*

❑ *Да ведама патэнцыяльных пакупнікоў дойчмарак: несапраўдная купюра мае на прасвет перарывістую металізаваную палоску (ніжняя купюра).*

*Слыхали?*

### Чешские "номера"

**Сезон чешской мебели открылся вчера в Минске.**

По заверению устроителей "Чешского сезона", это крупнейшая мебельная выставка-продажа в Беларуси за последние несколько лет. Фирма "Весна" представила широкий выбор офисной мебели, спальные и гостиные гарнитуры. Все смотрится весьма добротно, не роскошно, но вполне изысканно.

**Михаил СОКОЛОВ.**

### Был в деревне переполох

**Едва не стали жертвами лошади жители деревни Дашковка Славгородского района.**

Заразившееся (предполагается, от укуса больной лисы) животное так взбесилось, что, не защитись хозяева, могло искусать их, до смерти избить копытами. К счастью, все обошлось благополучно. Бешеная же лошадь, изрядно напугав других жителей деревни, через некоторое время умерла.

**Николай КОМЛЕВ.**

